Выходзіць з 20 снежня 1945 года



# Настаўніцкая газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 47 (5378)
Аўторак, 16 красавіка


Кіраванне адукацыяй

# Фінансаванне прафтэхсістэмы павінна быць шматканальным

***Валерый Міхайлавіч ХАСІН, дырэктар Мінскага прафесійна-тэхнічнага каледжа электронікі, на днях вярнуўся з Гомеля. Ён узначальвае Рэспубліканскі савет дырэктараў прафтэхустаноў і там праводзіў яго чарговае пасяджэнне. Але не толькі гэтая падзея стала нагодай для сустрэчы з Валерыем Міхайлавічам.***

***Хацелася пачуць меркаванне вопытнага кіраўніка наконт развіцця сістэмы прафесійна-тэхнічнай адукацыі ў сённяшніх умовах. Менавіта з гэтага і пачалася размова.***

– Наш Савет існуе не адзін год і аб'ядноўвае прадстаўнікоў кіраўнічых органаў самых розных узроўняў. Яго членамі з'яўляюцца не толькі дырэктары вядучых прафтэхустаноў рэспублікі, намеснікі начальнікаў упраўленняў адукацыі аблвыканкамаў, а і прадстаўнікі Міністэрства адукацыі. Прысутнасць на кожным пасяджэнні Савета намесніка Міністра адукацыі Барыса Васільевіча Іванова, начальніка ўпраўлення прафесійна-тэхнічнай адукацыі міністэрства Эдуарда Мікалаевіча Ганчара яшчэ раз пацвярджае кіраўнічую функцыю і каардынатарскую ролю нашай структуры.

Таму, натуральна, самыя надзённыя праблемы, якія хвалююць сёння педагагічную грамадскасць, і ў першую чаргу кіраўніцтва навучальных устаноў, ніколі не абмінаюцца на пасяджэннях нашага Савета.

Цяпер кожнага, так бы мовіць, прафтэхаўца хвалюе будучыня нашай сістэмы і ўвогуле яе існаванне. І зразумела, чаму. У нашым грамадстве, у эканоміцы, у адукацыі адбываюцца працэсы рэфармавання, якія, безумоўна, паўплываюць і на сістэму прафтэхадукацыі. Яна ж не ізаляваная, таму будзе рэфармавацца, як і іншыя сферы дзейнасці. І гэты працэс ужо пачаўся.

Можа, камусьці гэта не вельмі задавальняе. Існуючы ўжо больш як 60 гадоў, прафтэхсістэма працавала па правілах планавай эканомікі, і ў яе дзейнасці ўсё было разлічана на доўгія гады.

Сёння ж сітуацыя змяняецца, і кіраўніку ўжо трэба самому разлічваць кожны свой крок, улічваючы магчымасці як самой установы, так і патрэбы рынку.

Прафтэхсістэму заўсёды называлі кузняй рабочых кадраў, і яна ёю застанецца. Іншая справа, для каго і як рыхтаваць гэтыя рабочыя кадры сёння. Сістэма ж прафесійна-тэхнічнай адукацыі звязана з вытворчасцю і напрамую залежыць ад яе развіцця.

Калі вытворчасць працуе не на поўную магутнасць, а дзе-нідзе спынілася ўвогуле, дык выйсце напрошваецца само па сабе. Вытворчасць скарачаецца – значыць, трэба скарачаць падрыхтоўку кадраў для яе. Да гэтай думкі схіляюцца многія ў прафтэхаўскім асяроддзі. Але, паверце, гэта самы лёгкі шлях, які можа быць згубным. І не трэба далёка хадзіць за прыкладамі. Толькі што прачытаў у часопісе "Прафесіянал" выступленне начальніка ўпраўлення прафесійна-тэхнічнай адукацыі Міністэрства адукацыі Расіі аб сітуацыі з рабочымі кадрамі ў Калужскай вобласці. Ёй сёння патрабуецца 5 тысяч станочнікаў, а вучылішча рыхтуе толькі 50. Вы ўяўляеце сабе становішча?

Калі расійскую вытворчасць напаткаў крызіс, у такім жа стане апынулася і прафесійна-тэхнічная адукацыя краіны. Яе ўстановы спачатку пачалі скарачаць, а потым і ўвогуле закрываць. Вось і атрымалася, што прадпрыемствы перажылі крызісныя гады і запрацавалі. А потым схамянуліся – а кадры ж рыхтаваць і няма каму.

Я думаю, што такі горкі вопыт нашых калег павінен стаць добрым урокам для нас і засцерагчы ад згубнай практыкі.

Мяркуйце самі. Наша прафтэхсістэма выконвае сёння дзве асноўныя функцыі: не толькі прафесійна-тэхнічную падрыхтоўку, а і сацыяльную абарону падлеткаў. У нас навучаецца больш як 70 працэнтаў дзяцей з праблемных сем'яў, сірот, інвалідаў. Адмовіць ім у адукацыі мы не маем права. Значыць, трэба шукаць іншыя шляхі.

**- Напэўна,Савет дырэктараў разам з кіраўнічымі органамі вышэйшага ўзроўню такія шляхі ўжо выпрацоўвае. Якія ж рэкамендацыі прапаноўваюцца?**

– Рэкамендаваць тут можна толькі адно: павысіць фінансаванне. Але не толькі за кошт дзяржаўных сродкаў, а і з іншых каналаў. Як вядома, ні ў адной краіне адукацыя не ўтрымліваецца толькі за кошт дзяржавы. Існуе шматканальнае фінансаванне. Гэта цалкам прымальны шлях і для нашай ПТА. Першым каналам павінен застацца дзяржаўны бюджэт, сродкі якога выдаткоўваюцца на агульнаадукацыйную падрыхтоўку і на сацыяльную абароненасць навучэнцаў.

Да фінансавання прафесійнай падрыхтоўкі павінны падключацца прадпрыемствы, для якіх рыхтуюць рабочыя кадры. Зародкам такіх адносін можна лічыць сумесныя дагаворы вытворчасці з ПТВ, дзе закладзены палажэнні аб падтрымцы навучальнай установы. Канешне, гэтыя дамоўленасці не маюць пад сабой прававой базы, таму не могуць абавязаць прадпрыемства дапамагаць установе фінансава. Але набыццё абсталявання для яе, бягучы рамонт і шэраг іншых мерапрыемстваў сталі ўжо рэальнасцю.

Дазволю сабе адхіліцца ад асноўнай тэмы і прыгадаць паездку Савета дырэктараў у Гомель. На яго пасяджэнні разглядалася пытанне аб сумеснай дзейнасці "Гомсельмаша", ПТВ № 144 і ВПВ машынабудавання па развіцці іх матэрыяльна-тэхнічнай базы. Іх супрацоўніцтва замацавана "Палажэннем аб базавым прадпрыемстве прафесійна-тэхнічнага вучылішча".

У адпаведнасці з гэтым дакументам прадпрыемства бязвыплатна перадае прафтэхустановам, якія ажыццяўляюць для яго падрыхтоўку рабочых кадраў, абсталяванне, інструмент і матэрыялы для вучэбных мэт, ажыццяўляе рамонт металарэзнага абсталявання і тэхнікі, выдзяляе сродкі на будаўніцтва, рамонт і набыццё абсталявання ПТНУ.

Так, зыходзячы з патрэб Гомельскага ПТВ № 144 у рамонце, абнаўленні тэхналагічнага і металарэзнага абсталявання вучэбна-вытворчых майстэрняў, дагаворам з прадпрыемствам прадугледжана замацаванне за асобнымі ўчасткамі нават структурных падраздзяленняў "Гомсельмаша".

Заслугоўвае ўвагі і рашэнне калегіі ўпраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама аб правядзенні абласнога конкурсу на лепшую работу ўстаноў прафтэхадукацыі па ўмацаванні і развіцці матэрыяльна-тэхнічнай базы ў 2002 годзе. Паказальна ў гэтым тое, што адной з умоў для задуманага мерапрыемства з'яўляецца прыцягненне пазабюджэтных крыніц фінансавання.

У працяг нашай размовы пра шматканальнае фінансаванне хачу назваць яшчэ адзін кірунак – гэта аказанне платных адукацыйных паслуг насельніцтву. Кожная навучальная ўстанова павінна пашыраць сваю адукацыйную дзейнасць з улікам патрабаванняў рынку працы.

Платнымі могуць быць групы па прафесіях, якія карыстаюцца павышаным попытам у моладзі, на другім узроўні адукацыі альбо па тых прафесіях, якія не вытворчасць патрабуе, а канкрэтны заказчык. Тут можа быць шмат варыянтаў, у залежнасці ад магчымасцей навучальнай установы і ад кемлівасці яе кіраўніка. На жаль, у некаторых установах пазабюджэтная дзейнасць вымяраецца толькі выпускам карыснай прадукцыі. Бывае, што ў пагоні за рублём забываюць пра само вытворчае навучанне.

Гэта, праўда, ужо перагібы. Але ва ўдумлівага кіраўніка выраб прадукцыі можа стаць надзейнай крыніцай фінансавання, тым больш калі ўстанове дадзены оптавы заказ.

Ужо сёння ў ПТА дзейнічаюць ільготы на прыбытак ад рэалізаванай прадукцыі, вырашана пытанне і аб лізэнзаванні 12 відаў работ.

Трэба падумаць і пра магчымасць стварэння папячыцельскіх саветаў, якія б маглі таксама дапамагчы ўстановам прафесійна-тэхнічнай адукацыі. У яго могуць уваходзіць прадстаўнікі прадпрыемстваў, фірм, арганізацый і нават прыватныя асобы, якім неабыякавы лёс нашай адукацыі і якія могуць фінансава яе падтрымаць.

**- Валерый Міхайлавіч, якія надзеі вы ўскладаеце на прыняцце Закона аб прафесійна-тэхнічнай адукацыі? Ці спраўдзяцца спадзяванні яе работнікаў?**

– Адзін той факт, што ён ужо распрацаваны і, спадзяемся, будзе прыняты, – гэта ўжо падзея. Закон аб прафесійна-тэхнічнай адукацыі узаконіць саму сістэму, узаконіць і тыя шматлікія палажэнні, без якіх навучальныя ўстановы не могуць сёння мэтанакіравана працаваць. Так, у прыватнасці, будуць у прававым парадку акрэслены кірункі пазабюджэтнай дзейнасці, нарэшце, будуць вызначаны гарантыі і льготы тым прадпрыемствам-заказчыкам, якія дапамагаюць навучальным установам. І шэраг іншых палажэнняў.

А зрабіць сістэму прафесійна-тэхнічнай адукацыі больш значнай, важкай, трывалай, патрэбнай і, нарэшце, дзеяздольнай – гэта ўжо задача яе работнікаў.

**Ала КЛЮЙКО.**



Мазырскі драматычны тэатр імя Івана Мележа як прафесійны існуе не так і даўно, але імя актрысы Вольгі Кашынскай добра вядома гледачам. Роля Марыі ў спектаклі "Дрэвы паміраюць стоячы", Жанет у п'есе "Мужчынскі род, адзіночны лік" і роля Хадоські ў спектаклі паводле І.Мележа "Каханне Ганны Чарнушкі" палюбіліся гледачам і высока ацэнены тэатральнай крытыкай. На другім рэспубліканскім фестывалі творчай тэатральнай моладзі "Надзея" Вольга ганаравана дыпломам. Нядаўна яна стала лаўрэатам штогадовай прэміі падтрымкі творчай і таленавітай моладзі Гомельскага аблвыканкама.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

## Паважаныя чытачы!

**"Прамая лінія" са Старшынёй Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Ігарам КАТЛЯРОВЫМ і яго намеснікам Уладзімірам ЗДАНОВІЧАМ — кіраўніком рабочай групы па распрацоўцы Закона аб адукацыі адбудзецца 26 красавіка.**

**Свае пытанні вы можаце задаць з 11 да 13 гадзін па тэлефонах 236-42-16, 236-91-42.**

**Папярэдне яны будуць прымацца па тэлефоне 236-40-63, альбо па факсе 236-53-22. Таксама вы можаце даслаць свае пытанні па пошце на адрас рэдакцыі: 220034, Мінск, вул.Захарава, 42.**

# Аб заканчэнні 2001/2002 навучальнага года і правядзенні пісьмовых экзаменаў у агульнаадукацыйных школах Рэспублікі Беларусь

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь паведамляе, што 2001/2002 навучальны год у падрыхтоўчых, I–IV класах, вучэбныя заняткі ў V–XI(XII) класах агульнаадукацыйных школ усіх тыпаў заканчваюцца 25 мая. У школах з эстэтычным ухілам заняткі ў IX і XI(XII) класах заканчваюцца 20 мая.

Навучальны год у V–VIII і X класах заканчваецца пасля правядзення працоўнай і вытворчай практыкі (акрамя ўстаноў, размешчаных у зоне радыяцыйнага забруджвання) і вучэбна-палявых збораў (X клас).

У 2001/2002 навучальным годзе выпускнікі IX класаў агульнаадукацыйных школ усіх тыпаў здаюць 4 абавязковыя экзамены:

беларуская мова (пісьмова);
руская мова (пісьмова);
матэматыка (пісьмова);
гісторыя Беларусі (вусна).

Выпускнікі XI(XII) класаў агульнаадукацыйных школ усіх тыпаў здаюць 4 экзамены, з якіх два з'яўляюцца абавязковымі і два – па выбары вучняў.

Абавязковыя экзамены:
матэматыка (пісьмова);
беларуская мова або руская мова па выбары вучня (пісьмова).

Выпускныя экзамены ў IX класах агульнаадукацыйных школ усіх тыпаў праводзяцца з 3 па 14 чэрвеня і ў XI(XII) класах з 4 па 19 чэрвеня. Расклад экзаменаў вызначаецца школай з улікам адзіных па рэспубліцы тэрмінаў правядзення пісьмовых экзаменаў.

Пісьмовыя экзамены за курс базавай, сярэдняй школы ў 2001/2002 навучальным годзе праводзяцца ў наступныя тэрміны:

### IX КЛАС

3 чэрвеня **беларуская мова** ў агульнаадукацыйных, тэхналагічных, профільных класах і класах з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы школ з беларускай і рускай мовамі навучання (пераказ).

3 чэрвеня **руская мова** ў агульнаадукацыйных класах школ з беларускай і рускай мовамі навучання (пераказ).

6 чэрвеня **беларуская мова** ў агульнаадукацыйных класах школ з беларускай і рускай мовамі навучання (пераказ).

6 чэрвеня руская мова ў агульнаадукацыйных, тэхналагічных, профільных класах і класах з паглыбленым вывучэннем рускай мовы школ з беларускай і рускай мовамі навучання (пераказ).

10 чэрвеня **матэматыка** ў агульнаадукацыйных класах і класах, у якіх выкарыстоўваліся эксперыментальныя вучэбныя дапаможнікі, а таксама ў профільных класах, дзе матэматыка вывучалася на павышаным узроўні.

14 чэрвеня **матэматыка** ў агульнаадукацыйных класах і класах тэхналагічнага профілю, а таксама ў класах з паглыбленым вывучэннем матэматыкі.

### XI (XII) КЛАС

4 чэрвеня **матэматыка** ў агульнаадукацыйных класах і класах, у якіх выкарыстоўваліся эксперыментальныя вучэбныя дапаможнікі, а таксама ў профільных класах, дзе матэматыка вывучалася на павышаным узроўні.

7 чэрвеня **матэматыка** ў агульнаадукацыйных класах, гуманітарных класах і класах тэхналагічнага профілю, а таксама ў класах з паглыбленым вывучэннем матэматыкі.

11 чэрвеня **беларуская мова** ў агульнаадукацыйных, тэхналагічных, профільных класах школ з беларускай і рускай мовамі навучання (дыктоўка).

11 чэрвеня **беларуская мова** ў класах з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы (водгук).

11 чэрвеня **руская мова** ў агульнаадукацыйных, тэхналагічных, профільных класах школ з беларускай і рускай мовамі навучання (дыктоўка).

15 чэрвеня **беларуская мова** ў агульнаадукацыйных, тэхналагічных, профільных класах школ з беларускай і рускай мовамі навучання (дыктоўка).

15 чэрвеня **руская мова** ў агульнаадукацыйных, тэхналагічных, профільных класах школ з беларускай і рускай мовамі навучання (дыктоўка).

15 чэрвеня **руская мова** ў класах з паглыбленым вывучэннем рускай мовы (водгук).

19 чэрвеня **фізіка** ва ўсіх тыпах школ.

***Удакладняем наступнае :***

– у школах з эстэтычным і іншымі ухіламі, паглыбленым вывучэннем прадметаў і профільных класах вучні XI(XII) класаў здаюць адзін экзамен па выбары і тры абавязковыя экзамены (два, вызначаныя Міністэрствам адукацыі, і адзін – з ліку прафілюючых прадметаў). Калі прафілюючы прадмет уваходзіць у лік абавязковых прадметаў для здачы экзаменаў, то вучні здаюць два абавязковыя экзамены і два па выбары. Напрыклад, матэматыка для класаў фізіка-матэматычнага профілю ўваходзіць у лік абавязковых, таму вучань вызначае па выбары два прадметы;

– у школах з эстэтычным ухілам экзамены па прафілюючых прадметах у IX і XI(XII) класах праводзяцца ў перыяд з 21 па 30 мая;

– у школах з паглыбленым вывучэннем замежнай мовы вусны экзамен па прафілюючай замежнай мове ў XI класе праводзіцца ў перыяд з 28 мая па 12 чэрвеня.

Сярод экзаменаў па выбары могуць быць беларуская мова (дыктоўка) для тых вучняў, якія ў якасці абавязковага экзамену выбралі рускую мову, руская мова (дыктоўка) для тых вучняў, хто ў якасці абавязковага экзамену выбраў беларускую мову, мова нацыянальнай меншасці (пісьмова), беларуская літаратура (вусна), руская літаратура (вусна), замежная мова (вусна), другая замежная мова (вусна), гісторыя (вусна або абарона рэферата), чалавек і грамадства (вусна), геаграфія (вусна), біялогія (вусна), хімія (вусна), фізіка (вусна або пісьмова), астраномія (вусна), інфарматыка (вусна), сусветная мастацкая культура (вусна або абарона рэферата), працоўнае або прафесійнае навучанне.

Вучні XI(XII) класаў агульнаадукацыйных школ, а таксама выпускнікі спецыяльных агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў, школ, спецыяльных класаў і класаў інтэграванага навучання, якія прайшлі курс прафесійнага навучання, могуць па сваім жаданні здаваць кваліфікацыйныя экзамены. Яны праводзяцца ў тэрміны, якія ўстанаўліваюцца адміністрацыяй школы (вучэбна-вытворчага камбіната, прафесійна-тэхнічнай навучальнай установы і інш.), але не пазней чым за два тыдні да пачатку экзаменаў па агульнаадукацыйных прадметах.

Здача кваліфікацыйнага экзамену ў школе (вучэбна-вытворчым камбінаце, прафесійна-тэхнічнай навучальнай установе і інш.) залічваецца як здача аднаго з экзаменаў па выбары незалежна ад таго, прысвойваецца адпаведная кваліфікацыя і атрымлівае вучань кваліфікацыйнае пасведчанне ці не.

Вучні, якія не здалі кваліфікацыйны экзамен ва ўстаноўленыя тэрміны, паўторна здаюць яго з 20 па 24 мая. Калі вучань не здаў кваліфікацыйны экзамен і паўторна, то ён здае ў школе ўсе экзамены.

Пісьмовыя экзамены праводзяцца з выкарыстаннем радыё і тэлебачання або тэкстаў, падрыхтаваных Міністэрствам адукацыі. У асобных выпадках, калі выпускныя экзамены праводзяцца ў іншыя тэрміны (аздараўленне, санаторна-курортнае лячэнне, хвароба, пераезд на новае месца жыхарства, прызыў у армію і інш.), тэксты рыхтуюцца ўпраўленнямі адукацыі аблвыканкамаў, Камітэтам па адукацыі і справах моладзі Мінскага гарвыканкама.

Пісьмовыя экзамены па беларускай і рускай мовах за курс сярэдняй школы з паглыбленым вывучэннем беларускай або рускай моў праводзяцца ў форме водгука на мастацкі твор. На напісанне работы адводзіцца чатыры астранамічныя гадзіны. Работа ацэньваецца дзвюма адзнакамі: у лічніку – за змест і моўнае афармленне, у назоўніку – за пісьменнасць. Першая адзнака выстаўляецца па беларускай або рускай літаратуры, другая – па беларускай або рускай мове. Гэтыя адзнакі неабходна ўлічваць пры выстаўленні выніковых адзнак па беларускай або рускай мовах і літаратуры.

Выпускнікі спецыяльных агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў, школ, спецыяльных класаў і класаў інтэграванага навучання для дзяцей са слабым слыхам, глухіх дзяцей, а таксама дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы здаюць:

*– за курс базавай школы – 2 абавязковыя экзамены:*

3 чэрвеня беларуская або руская мова (пісьмова);

6 чэрвеня матэматыка (пісьмова);

*– за курс сярэдняй школы – 3 экзамены, з якіх два з'яўляюцца абавязковымі і адзін – па выбары вучня. Абавязковымі з'яўляюцца экзамены па наступных прадметах:*

3 чэрвеня матэматыка (пісьмова);

6 чэрвеня беларуская або руская мова (пісьмова).

Тэксты экзаменацыйных работ для гэтых навучальных устаноў па матэматыцы, беларускай і рускай мовах (пераказ або дыктант) для правядзення пісьмовых экзаменаў за курс базавай і сярэдняй школы дасылаюцца Міністэрствам адукацыі ва ўпраўленні адукацыі аблвыканкамаў, Камітэт па адукацыі і справах моладзі Мінскага гарвыканкама.

Сярод экзаменаў па выбары могуць быць прадметы, якія прадугледжаны для здачы экзаменаў па выбары ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах. Пры здачы экзамену па інфарматыцы выпускнікамі, якія маюць парушэнні слыху, выкарыстоўваюцца білеты, распрацаваныя Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь для гэтай катэгорыі дзяцей. Экзамены па гісторыі, біялогіі, геаграфіі, беларускай літаратуры, рускай літаратуры, сусветнай мастацкай культуры могуць праводзіцца як у форме вуснага адказу, так і ў форме абароны рэферата.

Выпускнікі спецыяльных агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў, школ, спецыяльных класаў і класаў інтэграванага навучання для дзяцей з затрымкай псіхічнага развіцця здаюць пісьмовыя экзамены па матэматыцы, беларускай і рускай мовах за курс базавай школы па тэкстах, якія прапануюцца для класаў тэхналагічнага профілю. Экзамен па гісторыі Беларусі за курс базавай школы здаецца ў парадку, вызначаным Міністэрствам адукацыі для агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь.

Выпускнікі спецыяльных агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў, школ, спецыяльных класаў і класаў інтэграванага навучання для дзяцей з парушэннямі зроку, вынікамі поліяміэліту і цэрэбральнага паралічу здаюць выпускныя экзамены за курс базавай і сярэдняй школы ў парадку, вызначаным Міністэрствам адукацыі для агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь.

*Асеннія пісьмовыя экзамены для вучняў IX класаў усіх тыпаў школ праводзяцца:*

19 жніўня – па беларускай мове;
21 жніўня – па рускай мове;
24 жніўня – па матэматыцы.

*Асеннія пісьмовыя экзамены для вучняў XI (XII) класаў усіх тыпаў школ праводзяцца:.*

19 жніўня – па матэматыцы;
22 жніўня – па беларускай або рускай мове;
24 жніўня – па фізіцы.

Экзамен па беларускай мове за курс базавай школы з беларускай і рускай мовамі навучання будзе праводзіцца па "Зборніку экзаменацыйных матэрыялаў па беларускай мове за курс базавай школы (пераказы)", Мінск, выдавецтва "Аверсэв", 2002 года выдання.

Для напісання экзаменацыйных работ па беларускай мове за курс сярэдняй школы (дыктант, водгук) будуць выкарыстоўвацца зборнікі 1999 і наступных гадоў перавыдання выдавецтва "Жаскон":

Экзамены па рускай мове як за курс базавай школы, так і за курс сярэдняй школы будуць праводзіцца па зборніках, выдадзеных у 2001 годзе выдавецтвам "Лексіс ":

"Сборник экзаменационных материалов по русскому языку за курс базовой школы";

"Сборник экзаменационных материалов по русскому языку за курс средней школы" .

Экзамен па матэматыцы за курс базавай школы з беларускай і рускай мовамі навучання праводзіцца па "Зборніках экзаменацыйных матэрыялаў па матэматыцы за курс базавай школы", якія выдадзены у 2000, 2001 гадах выдавецтвам "Народная асвета", за курс сярэдняй школы – па "Зборніках экзаменацыйных матэрыялаў па матэматыцы за курс сярэдняй школы", выдадзеных выдавецтвам "Жаскон" у 2002 годзе.

Пісьмовы экзамен па фізіцы за курс сярэдняй школы праводзіцца па "Зборніках экзаменацыйных матэрыялаў па фізіцы за курс сярэдняй школы", выдадзеных у 1994, 1999 гадах выдавецтвам "Жаскон".

Навучальны год у IX і XI(XII) класах заканчваецца пасля правядзення выпускных экзаменаў.

Работу па заканчэнні навучальнага года трэба праводзіць у адпаведнасці з "Правіламі атэстацыі, пераводу, арганізацыі экзаменаў і выпуску вучняў агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь", зацверджанымі загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь 25.10.1999 г. № 642 (Зборнік нарматыўных дакументаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь". Мінск, 1999, № 12), пастановай Міністэрства адукацыі ад 25.02.2002 г. №4 "Аб укараненні ў педагагічную практыку тэставых тэхналогій ацэнкі ведаў вучнёўскай моладзі", у адпаведнасці з якой экзаменацыйныя камісіі ўстаноў агульнай сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай адукацыі абавязаны залічваць па жаданні вучняў вынікі цэнтралізаванага тэсціравання ў якасці вынікаў выпускных экзаменаў па адпаведных прадметах згодна прад'яўленым сертыфікатам. Пункт 27 Правілаў атэстацыі, пераводу, арганізацыі экзаменаў і выпуску вучняў агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь пры правядзенні выпускных экзаменаў у XI(XII) класах не прымяняецца.

Атэстацыя вучняў IX–XI класаў сярэдніх агульнаадукацыйных навучальных устаноў, якія ў бягучым навучальным годзе навучаліся ў ЗША ў рамках праграмы школьных абменаў, ажыццяўляецца ў адпаведнасці з пісьмом Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь №06-13/374 ад 20.06.2001 г.

**Міністр адукацыі**
**Пётр Брыгадзін.**

Асоба

**Васіль СТРАЖАЎ:**

# "І не трэба баяцца новага..."

***Вельмі яркім момантам на II з'ездзе настаўнікаў была авацыя, якой людзі віталі былога міністра Васіля Іванавіча Стражава. Прэзідэнт краіны тады заўважыў, што калі б не настойлівасць Стражава, мы б сёння ў такой ступені аб рэформе школы не гаварылі...***

***Сёння Васіль Іванавіч Стражаў - рэктар Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы Белдзяржуніверсітэта. На пасадзе прафесара чытае курсы па гісторыі адукацыі і сучасных праблемах развіцця вышэйшай школы і сістэмы адукацыі ў цэлым.***

***В.І.СТРАЖАЎ - зноў наш суразмоўца.***

**- Пасля сямі гадоў на пасадзе міністра адукацыі Вы ўзначалілі Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы БДУ. Скажыце, Васіль Іванавіч, чаму менавіта РІВШ?**

- Рэч у тым, што я амаль восем гадоў чытаў лекцыі ў гэтым інстытуце. І не толькі як міністр, якога запрашалі на сустрэчы з прадстаўнікамі адміністратыўнага апарату кіравання вышэйшай школай, што праходзілі тут павышэнне кваліфікацыі, але чытаў і для выкладчыкаў вышэйшай школы лекцыі ў галіне прыродазнаўчых дысцыплін. Курс называўся "Сучасныя ўяўленні аб развіцці Сусвету і мікрасвет". Так, інстытут быў мне даўно знаёмы з практычнага боку.

Некалі ён называўся Інстытутам павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадскіх навук пры БДУ (падобных да яго было ўсяго тры ў Савецкім Саюзе). Потым задачы ўстановы змяніліся, і ў 1992 годзе яна была пераўтворана ў Інстытут вышэйшай школы і гуманітарнай адукацыі. З 1994 года па студзень 1997 года яго рэктарам быў прафесар Гайсёнак, што прыйшоў на гэтую пасаду з паста міністра. А з 1997 года рэктарам РІВШ, і адначасова першым прарэктарам БДУ, працаваў цяперашні Міністр адукацыі Пётр Іванавіч Брыгадзін.

Віктар Анатольевіч Гайсёнак вельмі шмат зрабіў, каб інстытут быў не толькі гуманітарнага напрамку павышэння кваліфікацыі, а каб тут адкрыліся кафедры інфармацыйных тэхналогій, прыродазнаўчых дысцыплін, з'явіліся цэнтры, адказныя за вучэбную і вучэбна-метадычную работу. Пётр Іванавіч прадоўжыў гэтую справу і зрабіў шмат для ўмацавання матэрыяльнай базы інстытута.

Калі ў 2000 годзе П.І.Брыгадзін пайшоў на пост рэктара Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, інстытут узначаліў Аляксандр Іванавіч Жук. Трэба адзначыць, што за год работы ён прыўнёс сюды шмат новага ў плане арганізацыі работы.

Цяпер Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы выконвае некалькі задач. Гэта – павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўка ў галіне гуманітарнай адукацыі, павышэнне кваліфікацыі кіраўнікоў вышэйшых навучальных устаноў; гэта – два цэнтры, адказныя за вучэбную і нарматыўную дакументацыю, якасць адукацыі вышэйшай школы; гэта – выдавецкі аддзел і ўрэшце гэта – навуковая работа, звязаная з выкладаннем у вышэйшай школе.

**- Якія задачы Вы паставілі перад сабой, калі ўзначалілі інстытут?**

– У лютым на базе РІВШ адбылася нарада рэктараў вышэйшых навучальных устаноў, дзе абмяркоўваўся працэс трансфармацыі вышэйшай школы. Для гэтай трансфармацыі ёсць некалькі прычын. Рэформа сярэдняй школы – гэта першая прычына, але не адзіная. Другая – гэта змяненне сацыяльна-эканамічных умоў жыцця грамадства, што прад'яўляе іншыя патрабаванні і да падрыхтоўкі спецыялістаў, і да самой арганізацыі вышэйшай школы. Трэцяя прычына – у тым, што сама вышэйшая школа мае ўнутраную патрэбу ў трансфармацыі.

Зразумела, што ў сферы вышэйшай адукацыі неабходныя змены. Ёсць адпаведныя пастановы ўрада, Канцэпцыя развіцця вышэйшай школы. Многае з таго, што там адзначана, ужо выканана і выконваецца, але наперадзе – новыя гарызонты. І задача нашага інстытута – аб'яднаць і скаардынаваць усе намаганні ў рэфармаванні вышэйшай школы.

Старт гэтаму дадзены. Але як школьная рэформа будзе доўжыцца 12 гадоў, то, думаю, і на рэформу вышэйшай школы пойдзе каля дзесяці гадоў. Тут нельга спяшацца, каб не згубіць тое, што маем.

Такім чынам, задачы, якія стаяць перад вышэйшай школай – яе рэфармаванне шляхам эвалюцыі, – натуральна, ставяць новыя задачы і перад нашым інстытутам. РІВШ павінен знайсці сваё, адметнае, месца ў гэтай сітуацыі, і мая задача – каб працэс не зацягнуўся. Я спадзяюся, што вельмі хутка мы будзем мець канкрэтную праграму дзеянняў.

**- Якой будзе рэфармаваная вышэйшая школа?**

– Каб зразумець, навошта гэтая рэформа, трэба звярнуць увагу на тыя асноўныя змены, што адбыліся на нашых вачах. Вельмі істотная змена, да якой мы быццам прывыклі, – пераход да масавай вышэйшай адукацыі. Два з трох выпускнікоў сярэдняй школы становяцца студэнтамі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. І гэта сапраўды якасна новы этап у развіцці адукацыі і грамадства.

Але масавая вышэйшая адукацыя (гэта было адзначана на сусветнай канферэнцыі ў 1998 годзе і ўласціва ўсім развітым краінам) прывяла да зніжэння якасці адукацыі. І паўстала задача – як у гэтых умовах па-новаму арганізаваць саму сістэму вышэйшай адукацыі.

У постіндустрыяльным грамадстве, дзе інфармацыя – крыніца ведаў і вытворчая сіла, дзе ўзнікаюць новыя метады навучання і новыя магчымасці перадачы зместу адукацыі, непазбежна мяняецца сама сістэма. На нашых вачах большасць ВНУ стала універсітэтамі, што значна пашырыла іх магчымасці для прадастаўлення ведаў студэнтам. І гэта толькі пачатак пераўтварэнняў.

Пераход да двухступеннай сістэмы вышэйшай адукацыі звязаны з тымі працэсамі, якія ўжо даўно ідуць у сярэдняй школе. Сёння трэба адрозніваць вышэйшую адукацыю для ўсіх, якая рыхтуе да працы і дае магчымасць працаваць (першую ступень), і адукацыю "для эліты" – другую ступень. Магчыма, праз нейкі час усе будуць праходзіць дзве ступені, але сённяшнія прапорцыі ў іншых краінах паказваюць, што на другой ступені вучацца не больш як 25 працэнтаў студэнтаў.

Сусветны стандарт для першай ступені – чатыры гады на базе дванаццаці- ці трынаццацігадовай школы. На другой ступені – магістратура – ідзе падрыхтоўка будучых вучоных, выкладчыкаў вышэйшай школы, спецыялістаў у перадавых галінах, што патрабуе паглыбленага навучання.

Двухступенная сістэма адукацыі – гэта піраміда, у аснове якой ляжыць іншая арганізацыя вучэбнага працэсу. Каб даваць вышэйшую адукацыі не за пяць гадоў, а за чатыры, і пры гэтым не панізіць яе якасны ўзровень, павінны быць іншыя падыходы. І тут важнейшае месца займае самастойная работа студэнтаў, але для гэтага трэба знайсці спосаб яе арганізацыі і кантролю.

Такім чынам, вышэйшая адукацыя ў будучыні – масавая, двухступенная, з дзейснай сістэмай кантролю за самастойнай работай студэнта і з большай свабодай студэнта ў выбары сваёй траекторыі руху па асваенні вучэбнага плана, значную частку якога студэнт таксама вызначае сам.

**- Што да навуковай працы, Вы працягваеце свае навуковыя пошукі?**

– Так, я па-ранейшаму цікаўлюся "чыстай" фізікай, у мяне там ёсць свой інтарэс. Але калі казаць пра навуку, гэта ўжо не з'яўляецца для мяне самым цікавым у жыцці.

Апошнім часам у мяне ўзніклі і дадатковыя інтарэсы. Дакладней, узніклі даўно, але тут яны аформіліся канчаткова. Рэч у тым, што я маю сваё, аўтарскае, бачанне таго, як павінны выглядаць вучэбныя курсы па сучаснаму прыродазнаўству для гуманітарыяў. І я працую над аўтарскімі курсамі, якіх ужо ёсць некалькі варыянтаў для розных катэгорый людзей. Тут злучаюцца і маё веданне прыродазнаўства, і маё веданне вышэйшай школы з разуменнем, што сёння трэба гуманітарыям.

Другое, што мяне вельмі прываблівае, – погляд на развіццё адукацыі з пункту гледжання тэорыі постіндустрыяльнага грамадства.

Тэорыя такога грамадства – ключ да больш яснага ўспрыняцця ўсяго таго, што адбываецца ў сучасным свеце. І сёння ў вядучых расійскіх і заходніх ВНУ яна разглядаецца як метадалагічная аснова разумення навакольнага свету. Адпаведныя курсы распрацаваны ў БДУ, у РІВШ. У мяне ж ёсць сваё бачанне курса, і ў наступным годзе я хачу выкласці яго студэнтам.

**- Такім чынам, можна казаць, што намячаецца тэндэнцыя да збліжэння гуманітарнай і прыродазнаўчанавуковай адукацыі?**

– У постіндустрыяльным грамадстве галоўную ролю ў арганізацыі вытворчасці, і наогул жыцця чалавека, пачынаюць адыгрываць веды – звязаныя найперш з прыродазнаўчымі дысцыплінамі. Але, каб супрацьстаяць пэўным пагрозам такога грамадства, абавязковымі робяцца гуманітарныя і гуманістычныя складнікі ў адукацыі.

І не трэба баяцца новага і абвяргаць яго, тым больш калі гэтае новае ёсць вынік рэальных змен у жыцці грамадства. Трэба баяцца, калі ніхто нічога не хоча рабіць, не хоча разважаць і разумець, што адбываецца навокал.

Вельмі вялікае значэнне ў постіндустрыяльным грамадстве надаецца адукацыі, якая становіцца вытворчай сілай. Прагноз такі, што да трыццатых-сараковых гадоў гэтага стагоддзя ў развітых краінах свету на першым месцы па колькасці працаўнікоў будзе сфера адукацыі. Але яна будзе ўключаць не толькі тое, што мы прывыклі разумець пад адукацыяй – ад дзіцячага садка да ВНУ. Найперш гэта будзе адукацыя для дарослых, у якіх ужо ёсць дыплом. І лозунг "Адукацыя праз усё жыццё" стане надзённай рэальнасцю. Імклівае змяненне штучнага свету вакол чалавека прымусіць кожнага пастаянна вучыцца. І калі XX стагоддзе было эпохай навукі, дык XXI стагоддзе – стане эпохай адукацыі.

**- Якая роля рэлігіі ў постіндустрыяльным грамадстве?**

– Гэта вельмі няпростае пытанне. Але асабіста для сябе я яго вырашыў, і ў мяне няма ўнутранага несуладдзя. А вырашыў я гэтае пытанне, зыходзячы з квантавай фізікі.

У ёй ёсць так званы прынцып дадатковасці. Самае простае тлумачэнне гэтага прынцыпу можна бачыць у дачыненні да электрона. Калі вы хочаце дакладна ведаць, дзе знаходзіцца электрон, вы не зможаце вызначыць яго хуткасць; калі ж хочаце вызначыць хуткасць электрона, тады не зможаце зафіксаваць яго месца знаходжання – гэта так званая суаднасць нявызначанасці. У гэтай сувязі прынцып дадатковасці, які сфармуляваў Бор, азначае наступнае: ёсць клас прыладаў, з дапамогай якіх можна вызначыць толькі хуткасць электрона; ёсць клас прыладаў, з дапамогай якіх можна вызначыць месца знаходжання электрона; але не існуе прыладаў, з дапамогай якіх можна вызначыць тое і другое адначасова.

Пазней стала вядома, што прынцып дадатковасці можна прымяніць не толькі ў фізіцы. Ён цалкам прыдатны і ў дачыненні да рэлігіі. Можна прымаць, даследаваць і развіваць навуковы пункт гледжання – я ведаю сучаснае ўяўленне аб развіцці Сусвету з пункту гледжання навукі. Але ёсць і рэлігійнае ўяўленне аб развіцці Сусвету. Абодва яны не выключаюць адно другое – яны ўзаемадапаўняльныя, і ў гэтым сэнсе не супярэчаць адно аднаму, гэтаксама як і прылады. Электрон жа ўсё роўна існуе, і Сусвет існуе, незалежна ад нашага жадання. Калі вы прымаеце навуковую трактоўку, тады не трэба гаварыць аб рэлігійнай, і наадварот. Толькі нельга іх аб'ядноўваць, бо тады ўзнікае супярэчнасць.

**- На пасадзе міністра Вы заўсёды цікавіліся нашай газетай. Чытаеце яе цяпер?**

– Вядома ж. Больш за тое – выпісваю сабе дадому. І ў кожным нумары знаходжу штосьці цікавае. Трэба сказаць, што "Настаўніцкая газета" цяпер лепшая, чым была раней. Яна перастала быць правінцыйнай.

**- Скажыце, Васіль Іванавіч, у Вас зараз болей вольнага часу?**

– Колькасць працы залежыць ад жадання працаваць, а я не магу не працаваць. І з пункту гледжання колькасці працоўнага часу ў мяне нічога не змянілася. Як і раней, працую 10-12 гадзін на дзень, але змяніўся характар працы. Цяпер я магу займацца тым, на што раней не хапала часу. І новыя мае інтарэсы гэтак жа цікавыя мне, як і тое, што я рабіў раней.

**- Дзякуй Вам за гутарку.**

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# Правы чалавека: гуманістычны аспект

***У Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы БДУ адбылася прэзентацыя вучэбнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ "Правы чалавека" пад агульнай рэдакцыяй доктара філасофскіх навук, прафесара А.Д.Гусева і доктара філасофскіх навук, прафесара Я.С.Яскевіч. Па сутнасці гэта першае беларускае выданне, якое забяспечыць выкладанне адпаведнага курса з пазіцый сучаснага, гуманістычнага стаўлення да праблемы правоў чалавека.***

У канцы 90-х гадоў было прызнана, што выкладанне курса "Правы чалавека" ў навучальных установах усіх узроўняў, незалежна ад профілю - аб'ектыўная неабходнасць. У 1998 годзе па рэкамендацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ў Міністэрстве адукацыі пачалася распрацоўка праграм гэтага курса, які цяпер з'яўляецца абавязковым для школ, ПТВ, ССНУ і ВНУ. Натуральна, спатрэбілася рыхтаваць спецыялістаў у гэтай новай сферы ведаў і ствараць адпаведную вучэбна-дапаможную літаратуру. У гэты ж час пачалася праца над дапаможнікам "Правы чалавека" калектыву навукоўцаў, у які таксама ўвайшлі Ю.Ю.Гафарава, І.І.Катляр і Л.І.Смагіна.

Дапаможнік атрымаў самыя высокія ацэнкі не толькі рэцэнзентаў (сярод іх - юрысты-практыкі, універсітэцкія правазнаўцы), але і педагогаў, якія ўжо пачалі па ім выкладаць. Па іх словах, нічога падобнага ў айчыннай вышэйшай школе дагэтуль не было. Акрамя таго, дапаможнік значна выйграе ў параўнанні з расійскімі выданнямі па гэтай праблеме.

Справа ў тым, што да гэтае пары вучэбная літаратура разглядала правы чалавека ў першую чаргу як правы грамадзяніна, гэта значыць дамінаваў юрыдычны пункт гледжання. Дапаможнік жа пад рэдакцыяй А.Д.Гусева і Я.С.Яскевіч прапаноўвае больш шырокі, ці не ўсебаковы, погляд на гэтую праблему. Самі стваральнікі вызначаюць яго як гуманістычны. Тут абагульняюцца тэарэтычны, гістарычны і, самае галоўнае, практычны аспект правоў чалавека. Адна з пераваг вучэбнага дапаможніка - насычанасць фактычным матэрыялам, што ўзяты з сучаснай айчыннай рэчаіснасці.

Педагогі-практыкі, якія прысутнічалі на прэзентацыі, падкрэслілі універсальнасць "Правоў чалавека": мяркую, дапаможнік можна выкарыстоўваць пры выкладанні таксама і сацыялогіі, паліталогіі ці гісторыі. І ўвогуле - праблемы, якія ў ім асвятляюцца, можна спраецыраваць на любую сферу нашага жыцця ці галіну прафесійнай дзейнасці. Новы дапаможнік дазволіць больш сістэмна выкладаць іншыя прававыя дысцыпліны, паколькі правы чалавека ў адносінах да іх з'яўляюцца ключавым паняццем.

Дапаможнік выдадзены на пачатку гэтага года накладам 5100 паасобнікаў. Аднак, улічваючы яго запатрабаванасць у выкладчыцкім асяроддзі, магчыма, увосень з'явіцца ў продажы дадатковая колькасць вучэбнага дапаможніка "Правы чалавека".

**Іна НІКІЦЕНКА.**

# Сапраўдная гуманітарная адукацыя пачынаецца з класічнай філалогіі

***Прыгожае пісьменства заўсёды было і застаецца захавальнікам тых культурных здабыткаў, што былі назапашаны народам на доўгім шляху гістарычнага развіцця. "Littera scripta manet" - гаварылі старажытныя рымляне. Так, напісанае застаецца, засвойваецца і перадаецца новым пакаленням у якасці неацэннага духоўнага скарбу.***

Антычнасць стала культурным падмуркам еўрапейскай цывілізацыі. Новыя стылі і напрамкі выяўленчага і пластычнага мастацтва генетычна або тыпалагічна сягаюць да сінкрэтызму архітэктуры і жывапісу Старажытнай Грэцыі і Рыма. Шматлікія філасофскія дактрыны паўстаюць як развіццё або інтэрпрэтацыя (пазітыўная ці негатыўная) вучэнняў класічнай філасофіі. Без Піфагора і Эўкліда не было б вышэйшай матэматыкі, без Архімеда не было б Эйнштэйна. Вышэйшая гуманітарная адукацыя пачынаецца з класічнай філалогіі. Гэтая традыцыя, грунт якой быў закладзены антычнымі "схоламі", вучонымі суполкамі, платонаўскай "акадэміяй" і арыстоцелеўскім "лікеем", эліністычнымі "гімнасіямі", была па-новаму ўспрынята ў эпоху Рэнесансу і дажыла сярод усходнеславянскіх народаў да пачатку XX стагоддзя.

На Беларусі класічная школа ўмацоўвае свае пазіцыі пачынаючы з XVI стагоддзя. У поўнай меры спрыяла гэтаму такая спецыфічная рыса нашага духоўнага развіцця, як полілінгвальнасць. Віленская Русь, атрымаўшы магутны імпульс у культурным развіцці ад Русі Літоўскай, тым не менш у значнай ступені была арыентавана на кантакты з Захадам. Шматвектарнасць грамадска-палітычнага, рэлігійнага і культурнага жыцця Вялікага княства Літоўскага стала асноваю і дамінантай у гістарычным развіцці дзяржавы. На Беларусі хрысціянская і антычная традыцыі засвойваліся адначасна: ва ўсходневізантыйскім і ў заходнім рыма-лацінскім варыянце. У перыяд Рэнесансу ў развіцці беларускай культуры выяўляецца якасна новая тэндэнцыя: паслабленне ўплываў візантыйскіх, паўднёваславянскіх культурных традыцый і арыентацыя на антычныя і перадавыя заходнееўрапейскія пры адначасным захаванні і далейшым развіцці палітычных, эканамічных і культурных сувязяў з Расіяй і Польшчай.

Антычная культурная традыцыя рэалізоўвала сябе ў рамках сістэмы класічнай адукацыі, удзельная вага якой узрастае ў эпоху Рэнесансу. Вядомы даследчык лацінамоўнай паэзіі Алесь Жлутка мяркуе, што менавіта класічная школа, у якой разам з асновамі хрысціянскага веравучэння выкладаліся старажытныя мовы і літаратура, адыграла вялікую ролю ў сінтэзе антычнасці, хрысціянства і народнай культуры – трох традыцыйных стыхій, што ўтвараюць ядро еўрапейскай цывілізацыі. Вывучэнне класічных моў і літаратур было важным элементам вышэйшай адукацыі на Беларусі як у духоўных, так і ў свецкіх навучальных установах аж да 1917 года.

У савецкія часы традыцыі класічнай школы былі запатрабаваныя ў меншай ступені. Тым не менш, пры зразумелым выключэнні ў гэты перыяд са сферы гуманітарнай адукацыі здабыткаў хрысціянскай антычнасці, лацінская мова займала не апошняе месца ў вучэбных праграмах адпаведных факультэтаў. Адпаведных – гэта значыць гуманітарных, найперш – філалагічнага, гістарычнага і юрыдычнага, а таксама – хімічнага, біялагічнага і медыцынскага профілю. Студэнты розных часоў савецкай эпохі, згадваючы заняткі па лацінскай мове, успамінаюць працэс завучвання сотні-другой выслоўяў, "метраном" канчаткаў залежнага стану "or-ris-tur-mur-mini-ntur" або цьмяны і загадкавы Gerundium. Камусьці пашчасціла натрапіць на "старарэжымных", "гімназічных" выкладчыкаў і паспець захапіцца міфалогіяй, гісторыяй і культурай, пачытаць у арыгінале Гарацыя і Катула. Але часцей за ўсё такога было мала: філолагі "націскалі" найперш на граматыку, лексіку і сінтаксіс, медыкі – на адпаведную тэрміналогію...

***

Сёлета спаўняецца 10 гадоў Еўрапейскаму гуманітарнаму універсітэту. Тады, у 1992 годзе, ён стаў адной з першых ВНУ на Беларусі, якая садзейнічала адраджэнню каштоўнасцей еўрапейскай цывілізацыі, а таксама развіццю традыцый хрысціянскага гуманізму. Намаганнямі фундатараў універсітэта акадэміка А.А.Міхайлава, прафесара У.А.Дунаева, а таксама Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, пры кансультацыйнай падтрымцы айчынных і замежных вучоных адпаведнага профілю, была распрацавана, між іншым, наватарская канцэпцыя гуманітарна-лінгвістычнай падрыхтоўкі, што атрымала назву "Artes Liberales". Менавіта так – "свабоднымі мастацтвамі" – называлі ва універсітэтах рэнесансавай Еўропы сем агульнаадукацыйных навук, якія і ўтваралі паняцце "базавай адукацыі".

Пры гэтым у ЕГУ, які не мае філалагічнай спецыялізацыі як такой, выключнае месца, тым не менш, было адведзена класічнай філалогіі. Гэта было звязана з прызнаннем дамінанты лінгвістычнай падрыхтоўкі ў сістэме гуманітарнай адукацыі, дзеля чаго была распрацавана унікальная "Гуманітарна-лінгвістычная праграма". У межах гэтай праграмы пераважна працуюць выкладчыкі кафедры класічнай і славянскай філалогіі, створанай у 1993 годзе. Усе выкладчыкі кафедры маюць філалагічную адукацыю, прычым лацінскую і старажытнагрэцкую мовы чытаюць філолагі-класікі, многія з якіх вядомыя не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Гэта Галіна Іванаўна Шаўчэнка – загадчык кафедры класічнай філалогіі БДУ, Антаніна Васільеўна Гарнік – дацэнт той жа кафедры, Андрэй Зіноўевіч Цісык – загадчык кафедры лацінскай мовы Беларускага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта, а таксама старшы выкладчык Галіна Раманаўна Налівайка. Штатныя супрацоўнікі кафедры – выпускнікі класічнага аддзялення Белдзяржуніверсітэта.

Студэнты першых курсаў усіх факультэтаў ЕГУ на працягу двух семестраў вывучаюць лацінскую мову. Прызначэнне курса – узбагаціць у будучых спецыялістаў культуру філалагічнага аналізу іншамоўных крыніц, аблегчыць засваенне новых еўрапейскіх моў (а кожны студэнт ЕГУ вывучае як мінімум дзве з іх). Латынь садзейнічае таксама засваенню міжнароднай тэрміналогіі лацінскага і грэцкага паходжання ў галіне гуманітарных навук і эканоміі. Прынцыповай асаблівасцю названага курса ва ўмовах ЕГУ з'яўляецца вывучэнне латыні на культуралагічнай аснове. Пры гэтым улічваецца спецыфіка кожнай спецыяльнасці (філасофія, культуралогія, права, мастацтвазнаўства, дызайн і г.д.), праводзіцца арыентацыя не толькі на агульнакультурныя, але і на прафесійныя інтарэсы студэнтаў. Граматыка служыць пры гэтым неабходнай базай для засваення шырокага спектра пытанняў, звязаных з вывучэннем асноў класічнай філалогіі і антычнай культуры.

На тэалагічным і філасофскім факультэтах чытаецца старажытнагрэцкая мова. На гэтых жа факультэтах прапануюцца спецыяльныя курсы "Лацінскі аўтар" і "Старажытнагрэцкі аўтар". У рамках спецкурса "Лацінскі аўтар" для студэнтаў філасофскага факультэта чытаюцца ў арыгінале "Маральныя лісты" Сенэкі, трактат "Пра прыроду багоў" Цыцэрона, паэма "Пра прыроду рэчаў" Лукрэцыя; студэнты тэалагічнага факультэта чытаюць "Аналы" Карнэлія Тацыта, "Ліст да імператара Траяна" Плінія Малодшага, "Споведзь" Блажэннага Аўгусціна, Евангелле ад Лукі, Евангелле ад Матфея. Спецкурс "Старажытнагрэцкі аўтар" прапануе студэнтам-філосафам дыялогі Платона "Федр" і "Федон", філасофскія лісты Эпікура, "Гномалогію" Эпіктэта, а таксама асобныя творы дасакратыкаў; студэнты-тэолагі знаёмяцца з грэцкім перакладам Старога Запавету ("Септуагінтай"), а таксама грэцкім тэкстам Тэтраевангелля.

Выкладчыкамі кафедры забяспечваецца таксама чытанне курсаў "Беларуская мова", "Уводзіны ў лінгвістыку", "Гісторыя і тэорыя літаратуры", спецкурса "Пісьмовая культура Беларусі XVI – XVIIIстст." для студэнтаў аддзялення культуралогіі філасофскага факультэта. Выкарыстанне новых інтэрактыўных методык пры выкладанні моўных і літаратуразнаўчых дысцыплін (пры куратарстве прарэктара Т.Я.Галко) дазваляе зрабіць традыцыйныя лінгвістычныя курсы больш разнастайнымі і цікавымі для студэнтаў, пашырыць літаратурны, культурны і філасофскі кантэкст.

***

Успамінаецца адзін з маіх універсітэцкіх настаўнікаў, які даказваў нам неабходнасць нашай самастойнай працы, штодзённай руплівасці ў імкненні да ведаў. "Каня можна прывесці на вадапой, але нельга прымусіць яго напіцца", – гаварыў ён. Развіваючы прыгожую метафару, асмелюся сказаць, што ў ЕГУ студэнта не прымушаюць доўга шукаць дарогу да вадапою, імкнучыся максімальна кароткім шляхам прывесці яго да жыватворнай крыніцы спрадвечнай мудрасці.

**Жанна НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ,**
**загадчык кафедры класічнай і славянскай філалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, кандыдат філалагічных навук.**

Алімпіяды

# Дзеля пошуку таленавітых

***Завяршылася Рэспубліканская алімпіяда па педыятрыі"Студэнт і навукова-тэхнічны прагрэс". У чацвер у Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце былі падведзены яе вынікі.***

На заключны тур алімпіяды ў БДМУ сабраліся будучыя педыятры, пакуль - студэнты-старшакурснікі, з усіх медыцынскіх ВНУ краіны, дзе яны атрымалі перамогу ва ўнутрыуніверсітэцкіх алімпіядах. У апошнім туры ім належала вырашыць цэлы шэраг сітуацыйных задач і правесці дыягностыку ля ложка хворага, што, на думку арганізатараў, найлепш раскрывае глыбіню тэарэтычных ведаў і ўменне прымяніць іх на практыцы.

І студэнты вырашалі пастаўленыя задачы, выбудоўваючы ланцужок разважанняў - ад скаргі хворага да пастаноўкі дыягназу і назначэння лячэння. Іх пацыентамі былі дзеці з чацвёртай дзіцячай клінічнай бальніцы Мінска, і вызначаныя студэнтамі дыягназы, вядома ж, праходзілі строгую экспертызу вопытных урачоў і супрацоўнікаў кафедры БДМУ, выкладчыкаў іншых медыцынскіх ВНУ.

Як адзначыў дэкан педыятрычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта, дацэнт Анатоль Сікорскі, студэнты ахвотна адгукнуліся на заклік узяць удзел у алімпіядзе, праявіўшы вельмі вялікую зацікаўленасць. Згодна з палажэннем лаўрэаты рэспубліканскага тура будуць мець спецыяльны запіс у дыпломе аб вышэйшай адукацыі, яны атрымаюць перавагі пры залічэнні ў аспірантуру ці клінічную ардынатуру па профілі спецыяльнасці пасля заканчэння ВНУ.

Універсітэт аднавіў гэтую алімпіяду сярод студэнтаў-педыятраў пасля дзесяцігадовага перапынку, і, мяркуецца, яна будзе аднаўлена таксама на іншых факультэтах. Акрамя таго, што алімпіяда - значны стымул да вучобы ў студэнтаў, яна дапамагае ўзняць якасць падрыхтоўкі будучых урачоў, а таксама выявіць найбольш таленавітую моладзь.

- Мы вельмі задаволеныя, што нам удалося аднавіць алімпіяду,- гаворыць загадчык кафедры прапедэўтыкі дзіцячых хвароб, дацэнт Міхаіл Чычко. - Чаму першым тут быў педыятрычны факультэт? Бо мы, педыятры, больш рухомыя і непаседлівыя, заўсёды ў пошуку, як дзеці...

Усе ўдзельнікі алімпіяды - студэнты і выкладчыкі - пагадзіліся, што будзе вельмі карысна праводзіць яе штогод.

**Галіна СІДАРОВІЧ.**
**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**



Адзіная ў вобласці школа бондараў існуе ўжо другі год у вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна. Менавіта тут раней жыло шмат бондараў, ды і сёння іх засталося нямала. Кіруе вучобай былы ваенны тэхнік марской авіяцыі, а цяпер пенсіянер Віталь Лук'янавіч Касевіч. Свайму рамяству ён вучыўся ў бацькі і дзеда, а зараз перадае веды і ўменне адзінаццаці падлеткам, якія цікавяцца бондарнай справай.

Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.

Меркаванне

# Страсці па-лацінаамерыканску

Бальныя танцы мне даводзілася бачыць нячаста, у асноўным - на тэлеэкране. А тут надарылася магчымасць паглядзець чарговы конкурс у адной пазашкольнай установе. Конкурс праходзіў па дзвюх намінацыях - "лацінцы" і "стандарце" (так скарочана называюць лацінаамерыканскія і еўрапейскія танцы). Узрост удзельнікаў - ад першакласнікаў да зусім дарослых "дзядзяў" і "цёцяў", якія самі ўжо даўно маюць вучняў. Вывучка таксама розная, адпаведная ўзросту. Арганізацыя самога конкурсу - бездакорная. Усё ішло як па-пісаным - адбор лепшых выканаўцаў, падзяка тым, хто адсейваўся, з абавязковай шакаладкай. Ні разу не збіліся ні вядучыя, ні фанаграма, паспявалі пераапрануцца ўдзельнікі.

З трох бакоў залы сядзелі і білі ў ладкі балельшчыкі - у асноўным бацькі і бабулі канкурсантаў, а таксама прыезджыя "групы падтрымкі" з клубаў Віцебска, Оршы, Жодзіна, Маладзечна і іншых гарадоў рэспублікі.

Шчыра прызнаюся, нягледзячы на прыемныя вуху мелодыі, мне было не па сабе. Шкада было пачаткоўцаў - гэтых выструнесных, напружаных дзяўчынак і хлопчыкаў, якім даводзілася выкручвацца, віхляцца ўсім цельцам, імітуючы паўднёвыя страсці аргенцінцаў і мексіканцаў.

К паўфіналу тэмпература ў зале паднялася да крытычнай. Падагрэтыя ўвагай і блізкай перамогай дарослыя танцоры "хобі-класа", як віхор, насіліся па паркеце. (Каб туфлікі не былі такімі слізкімі, іх нацíралі спецыяльнымі шчоткамі.) Некаторыя давалі волю і эратычнаму элементу, натуральнаму і нават пажаданаму ў "лацінцы". Згадайце пра эстэтыку аголенасці (недарэчную ў дачыненні да малых дзяўчынак), успомніце пра сямейны характар глядацкай аўдыторыі - і вы зразумееце, чаму ў фінале я ўжо старалася не паднімаць вачэй на самых разняволеных танцораў. Не цяжка здагадацца, што яны і сталі пераможцамі.

Здзівіла тое, што нейкія завельмі кіслыя, не адпаведныя падзеі твары былі ў паважаных суддзяў. А адна з трэнераў (выпадкова пачула) заявіла выхаванцам: "Калі вы не выйдзеце ў паўфінал, я вас тут пахаваю і пад паркетам закапаю". Так што пад гэтым касцюміраваным шыкам, гэтай бальнай святочнасцю хаваюцца зусім не высакародныя матывы і пачуцці...

Бедныя бацькі! Падчас славу сваіх дзяцей яны любяць больш чым саміх дзяцей, інакш не аддавалі б іх ледзьве не з пялёнак у такога роду клубы. Дзіця павінна выхоўвацца на сваім родным, і толькі пасля, падросшы, засвойваць культуру іншых народаў. Ці я памыляюся?

Галіна ЗІНКЕВІЧ.

Весткі

# Уручылі "Гліняны Вялес"

***29 сакавіка ў музеі кнігадрукавання ў Полацку адбылося чарговае ўручэнне літаратурнай прэміі "Гліняны Вялес", заснавальнікам якой з'яўляецца Таварыства вольных літаратараў.***

Літаратурная прэмія "Гліняны Вялес" уручаецца штогод за лепшую беларускую кніжку, незалежна ад таго, у якой краіне яна ўбачыла свет. Упершыню ў гэтым годзе з мэтай вылучэння кандыдата выкарыстаны Інтэрнет. Кожны, хто меў жаданне, на сайце "Беларуская палічка" мог вылучыць і абмеркаваць свайго прэтэндэнта на ганаровую ўзнагароду. У абмеркаванні прынялі ўдзел як чытачы, так і вядомыя літаратары не толькі з Беларусі, але і з замежных краін. Па выніках абмеркавання быў створаны шорт-ліст, куды ўвайшлі Алесь Пашкевіч з кнігай "Пляц волі", Віктар Жыбуль ("Прыкры крык"), "Штольні вясны" Віктара Слінко, кніга апавяданняў і аповесцяў "Удох" Франца Сіўко і "Нашэсце поўні" Міхася Скоблы. Перамогу атрымаў малады літаратар з Мінска Віктар Слінко са зборнікам вершаў "Штольні вясны".

Першая яго кніжка "Апошні снег" выйшла ў 1995 годзе. Гэта была даволі вучнёўская паэзія, бо малады аўтар пайшоў у фарватэры Алеся Разанава. З цягам часу ён пакінуў вольныя вершы, перайшоў да больш рытмізаваных. Зараз многія, у прыватнасці літаратуразнаўца Ганна Кісліцына, якая прысутнічала на цырымоніі, параўноўваюць іх з творчасцю Іосіфа Бродскага. І разам з тым малады паэт здолеў застацца самім сабой. Віктар Слінко - "чалавек, які не б'е ў барабаны, а носіць паламаную скрыпку ў душы".

Літаратурная прэмія "Гліняны Вялес" уручаецца ўжо 10 год запар. Па словах аднаго з яе заснавальнікаў, Алеся Аркуша, беларуская літаратура бяднее на імёны. Уручэнне літаратурных прэмій за лепшую кніжку года дае магчымасць пазнаёміцца з новымі аўтарамі. "Ды і наогул, Вялес дае мажлівасць набыць новы імпульс у развіцці ўсяму літаратурнаму працэсу на Беларусі, зрабіць яго больш дынамічным", - зазначыў полацкі літаратар.

# Створана "Студэнцкае этнаграфічнае таварыства"

***Адным з яго заснавальнікаў стаў наваполацкі гісторыка-культурны клуб "Княжыч".***

Ідэя стварэння рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Студэнцкае этнаграфічнае таварыства" з'явілася ў мінскіх ініцыятараў ужо досыць даўно, калі ў 1991 годзе маладыя людзі, зацікаўленыя ў адраджэнні этнаграфіі Беларусі, пачалі арганізоўваць вандроўкі, дзе вывучалі беларускі фальклор. Клубу "Княжыч", аднаму з нешматлікіх этнаграфічных арганізацый на Беларусі, прапанавалі таксама далучыцца да задуманага грамадскага аб'яднання.

Гісторыка-культурны клуб "Княжыч" заснаваны ў 1995 годзе па ініцыятыве маладых выкладчыкаў кафедры гісторыі і сацыялогіі Полацкага дзяржаўнага універсітэта. Асноўная яго мэта - аб'яднанне моладзі, неабыякавай да лёсу Беларусі, а таксама адраджэнне беларускіх традыцый і абрадаў. Усё пачалося з вывучэння гісторыі і багатай культуры Полаччыны. Апошнім часам у "Княжыча" з'явіўся яшчэ адзін напрамак дзейнасці: з мэтай папулярызацыі нацыянальнай спадчыны сябры клуба актыўна выступаюць у розных аўдыторыях. Акрамя гэтага, традыцыйна адзначаюць Каляды, Купалле, ладзяць Гуканне вясны.

На сённяшні дзень пастаяннымі ўдзельнікамі гэтага ўтварэння з'яўляюцца 10 чалавек. Пераважна настаўнікі гісторыі. Але прыходзяць сюды і студэнты гісторыка-філалагічнага факультэта ПГУ, на якіх ускладваюцца вялікія надзеі ў адраджэнні нацыянальнай культуры. Як зазначыла адна з сяброў клуба, Наталля Муляронак, у "Княжычы" няма выпадковых людзей, бо для многіх зварот да мінуўшчыны стаў ужо мэтай жыцця.

"Княжыч" - удзельнік шматлікіх фестываляў у Беларусі і Расіі. Апошнія два гады выпраўляўся ў Польшчу на традыцыйныя купальскія фестывалі. Бліжэйшая запланаваная акцыя - гэта паездка 21 красавіка ў Сеннінскі раён на святкаванне Юр'я.

Вольга МІНЯНКОВА.





Калектыў Індустрыяльна-педагагічнага каледжа РІПА глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці БАБЧЫНСКАГА Анатоля Аляксандравіча і выказвае шчырае спачуванне яго родным і блізкім.


Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-90-63, 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання — 36-43-71; інфармацыі — 36-43-71; навукі і ВНУ — 36-44-25; кіравання адукацыяй, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22, bng@e-mail.ru

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Мікола ГІЛЕВІЧ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны.
Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Заказ № 2167
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 15.4.2002 г. у 18.10
Тыраж 30.000 экземпляраў.